**500 ДОЛАРАЎ**



СЁННЯ І ДВА ГАДЫ ТАМУ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**АЛІМПІЙСКІЯ РАЗБОРКІ**

ХТО ВІНАВАТЫ Ў НЕДАБОРЫ МЕДАЛЁЎ?



СТАР. 7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 20.09.12-26.09.12 г.


# “ЗБІВАЦЬ ЖУРНАЛІСТАЎ НЕНАРМАЛЬНА!”

**Як вядома, у Мінску зноў жорстка збілі, а потым затрымалі журналістаў пры выкананні імі прафесійных абавязкаў падчас сёлетняй выбарчай кампаніі**

Аднаму з лепшых беларускіх фотакарэспандэнтаў Сяргею Грыцу разбілі акуляры і «заехалі» ў вока. Здымак яго акрываўленага твару быў змешчаны на многіх сайтах, у тым ліку і на замежных.

Пабітыя акуляры, фінгал пад вокам і сінякі на целе... Сапсаваны не толькі настрой, але і працоўны дзень.

**«Тут і цяпер»** высветліла, як ставяцца да збіцця і затрымання журналістаў не апазіцыянеры, а тыя, каго пры ўсім жаданні да апошніх не аднясеш.




*Журналістаў недалюбліваюць часта, але гэта не нагода іх збіваць*

## РУКІ ПРЭЧ!

**Сяргей Мусіенка, кіраўнік Аналітычнага цэнтра EcooM,** які вядомы сваёй набліжанасцю да ўлады, перакананы: журналістам нельга перашкаджаць працаваць падчас акцый.

«Я лічу, што журналістаў наогул нельга чапаць, — гаворыць Сяргей Рыгоравіч. — Гэта маё такое ўяўленне пра жыццё. Яны знаходзяцца на працы, гэтак жа, як і прадстаўнікі сілавых структур.

Збіваць журналістаў ненармальна, як і забараняць ім выязджаць за мяжу. Гэта фактычна забарона на прафесію. А калі заўтра журналіст з БТ пяройдзе ў якое-небудзь незалежнае выданне?! Таму яшчэ раз паўтараю: журналістаў чапаць нельга!»

Сяргей Мусіенка не стаў разважаць пра тое, чаму ў Беларусі апошнім часам усё часцей здараюцца такія інцыдэнты з прадстаўнікамі СМІ.

«Я аб збіцці Грыца і іншых толькі ад вас пачуў, — заўважыў ён. — У мяне сын на гімнастыку пайшоў, мы позна вярнуліся, і я не глядзеў навіны ў інтэрнэце...».

## ПЫТАННЕ НЕ ПА АДРАСЕ

**Сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік** сцвярджае, што ЦВК не мае ніякага дачынення да гэтага выпадку.

«Пытанне не па адрасе, — адказаў Мікалай Іванавіч. — Цэнтрвыбаркам не мае да гэтага ніякага дачынення. Ніякага! Таму я толькі так магу пракаментаваць гэтае пытанне».

## БЫЦЦАМ У КАМЕННЫМ ВЕКУ

**Старшы менеджар аднаго з прыватных прадпрыемстваў Святлана Белхлоп** на акцыі апазіцыі не ходзіць: не бачыць у іх вялікага сэнсу і лічыць марнаваннем часу. Але да затрыманняў журналістаў ставіцца рэзка адмоўна.

«Я лічу, што па адносінах да журналістаў можна меркаваць аб узроўні развіцця дзяржавы, — выказвае яна сваё меркаванне. — Ну пра што новае даведаліся б беларусы, калі б фотаздымкі гэтага пікету трапілі б у інтэрнэт? Ну пікет і пікет, апазіцыя і апазіцыя... У іншых краінах людзі выходзяць на плошчы, адстойваюць свае правы, выказваюць думкі, і гэта нармальна. А мы быццам у каменным веку жывём...».

## АД КАГО БОЛЬШ КАРЫСЦІ?

**Былы кандыдат у прэзідэнты Віктар Цярэшчанка**, стрымліваючы эмоцыі, кажа, што ўвогуле перажывае шок ад падзей у краіне.

«Учора позна прыехаў, толькі вось сеў навіны пачытаць, — дзеліцца ён. — Шчыра кажучы, у мяне няма слоў. Гэта ж не плошча Кастрычніцкая, не КДБ, а проста пікет каля ўніверсама... Гэта не ад вялікага розуму робіцца.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## САМ-НАСАМ СА СКРЫНЯМІ

**Назіральнікі паведамляюць, што ў абед міліцыянты зачыняюцца на ўчастку для галасавання.**

“Разыходжанні ў спісках з яўкай. У першы дзень мы зафіксавалі 7 чалавек, а выбарчая камісія – 22 чалавекі. У другі — назіральнікі налічылі 22 чалавекі, а камісія — 57”, — расказвае назіральніца па Грушаўскай акрузе сталіцы Манькоўская Наталля.

Пра адносіны міліцыянтаў са старшынямі камісіі лепш за ўсё паразмаўляць з былым падпалкоўнікам міліцыі Мікалаем Казловым. На мінулых выбарах ён ахоўваў участак для галасавання ў Старавіленскай акрузе і адмовіўся даць ключы старшыні камісіі пасля закрыцця ўчастка. У выніку зрабіць гэта яму загадала кіраўніцтва а сам Казлоў нібыта ўбачыў, як члены камісіі укідваюць бюлетэні у скрынку для галасавання.

Былы міліцыянт гаворыць, што тэарэтычна праваахоўнікі могуць нават затрымаць фальсіфікатараў.

“Так, фармальна яны могуць скруціць чалавека, ці сябра выбарчай камісіі ў барані рог. Калі яны парушаюць закон. Але трэба разумець, што гэта не тое правапарушэнне, за якое трэба скручваць. Гэта ж не узброенае нападзенне”.

**АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ**

# ЦІ МАГЧЫМА ВАЛЮТНАЯ ПАНІКА ГЭТАЙ ВОСЕННЮ?

У мінскіх абменніках адзначаліся і адзначаюцца чэргі жадаючых набыць долары і еўра. Няўжо запахла валютнай панікай 2011 года? Адказы на гэтае пытанне шукала "Тут і цяпер".

**СЯРГЕЙ ЧАЛЫ, ЭКАНАМІЧНЫ АНАЛІТЫК:**

## "ЛЕТАШНІ КРЫЗІС ЗАСТАЎСЯ Ў МІНУЛЫМ".

— Наўрад ці. Нейкія чэргі могуць быць, але не паніка. Для яе, акрамя чутак пра тое, што недзе хтосьці бачыў, як людзі мяшкамі скупляюць валюту, павінна мець месца і праблема з валютай у абменніках. Аднак да гэтага вельмі далёка. У параўнанні з сакавіком 2011 года, сітуацыя значна лепшая. Па ідэі, могуць проста "заліць" грашыма любы пажар, як было ў траўні, пры першай спробе раскруціць такую паніку (на працягу некалькіх дзён адзначаўся рост курса на сто рублёў). Народ кінуўся скупляць. У выніку курс не змяніўся, а на працягу месяца ўпаў. Нешта падобнае можа адбыцца і зараз. Мінулы ж крызіс быў звязаны з тым, што рэсурсаў у дзяржавы было вельмі мала, і яна думала, адкрываць валютны рынак ці закрываць. У рэшце рэшт, валюту з рэзерваў увогуле перасталі прадаваць насельніцтву. Зараз такой праблемы няма. Калі насельніцтва пачне купляць валюту ў памеры некалькіх соцень мільёнаў долараў у месяц, то такі попыт прывядзе да росту курса. І ўсё. А ці стане гэты працэс няспынным? У людзей жа бюджэты небязмежныя. Яны ж не змогуць бясконца адмаўляць сабе ў рублях, каб замест ежы набываць долары. Гэты баланс усталюецца на нейкім новым узроўні.

**ВЕРАНІКА КУЛІК, МЕНЕДЖАР:**

## "У НАС МАГЧЫМА ЎСЁ".

— Вясной 2011-га таксама хапала золатавалютных рэзерваў, і што? Таму ў нас можа быць усё, што хочаш. Так, гэта не будзе дакладна такі ж самы сцэнарый. Сцэнарыі рэдка паўтараюцца, але чым больш будуць рэгуляваць і падтрымліваць курс, тым большай будзе верагоднасць узнікнення панікі. Для яе трэба няшмат. Дастаткова добрай нагоды: чаго-небудзь намудраваць з продажам валюты імпарцёрам або прыдумаць прадаваць сто баксаў у адны рукі. Механізмаў шмат. А вось калі народ спалохаецца, то паніка можа ўзнікнуць у адно імгненне.



*Пажывем – пабачым*

**АФІЦЫЙНА**

**Нацбанк і ўрад маюць намер прыняць дадатковыя меры па развіццю фінансавага рынку Беларусі. Аб гэтым заявіла сёння журналістам старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Надзея Ермакова, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

На думку Надзеі Ермаковай, неабходна актывізаваць работу з фінансавым рынкам Беларусі, заканадаўча рэгламентаваць дзейнасць шэрага яго сегментаў, такіх як, напрыклад, мікрафінансаванне, спажывецкія кааператывы. Асобным законам не прапісаны лізінг, факторынг, фарфэйтынг. Гэта пытанне абмяркоўвалася з урадам, Міністэрствам фінансаў. «Мы ўзгаднілі, што страхавы рынак і каштоўныя паперы застаюцца за Мінфінам, а тыя прадукты, якія бліжэй да банкаўскай сістэмы, - за Нацыянальным банкам», - растлумачыла яна. Паводле слоў Надзеі Ермаковай, гэта неабходна для таго, каб упарадкаваць работу на фінансавым рынку. «Падрыхтаваны праект сумеснай пастановы ўрада і Нацыянальнага банка. Мы размяжоўваем наш рынак і працуем», - дадала кіраўнік Нацыянальнага банка.

«Мяркуем, што ў чацвёртым квартале гэтага года мы павінны ўжо займацца падрыхтоўкай заканадаўства па мікрафінансаванню, па спажывецкіх кааператывах. А Міністэрства фінансаў запланавала на першы квартал 2013 года прапісваць больш сур'ёзныя пытанні па страхавому рынку», - паведаміла Надзея Ермакова.

**АЛЯКСАНДР ЧУБРЫК,**
**ДЫРЭКТАР ДАСЛЕДЧАГА ЦЭНТРА ІПМ:**

## "НЯМА НІЯКІХ ПАДСТАЎ ДЛЯ ПАЎТАРЭННЯ САКАВІКА 2011-ГА".

— У беларусаў няма столькі беларускіх рублёў, каб абваліць рубель пры дадзеным узроўні рэзерваў. Таму, калі ўзнікаюць чэргі каля абменнікаў, хай стаяць на здароўе. Я б да канца года не стаяў. Тым больш сёння можна знайсці абменнікі, дзе можна абмяняць грошы без чаргі. Я пакуль што не бачу ніякіх падстаў для таго, каб паўтарыўся сакавік 2011 года.

**СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ,**
**БЫЛЫ СТАРШЫНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА КРАІНЫ:**

## "АБВАЛУ НЕ БУДЗЕ".

— Такога абвалу быць не можа, таму што да гэтае пары гандаль збалансаваны. Нейкіх правалаў у эканоміцы няма. Экспарт значна вырас у параўнанні з мінулым годам. Баланс бюджэту забяспечваецца. Бюджэт прафіцытны. Так, праблемы ёсць — гэта інфляцыя, рост цэн. І грашовая маса ідзе на павелічэнне цэн. Але для таго, каб нешта ашчаджаць у выглядзе валюты, грошай у насельніцтва не хапае.

**БАРЫС ЖАЛІБА,**
**ПРАФЕСАР, ДОКТАР ЭКАНАМІЧНЫХ НАВУК:**

## "ВАЛЮТЫ Ў ДЗЯРЖАВЫ ХОПІЦЬ".

— Панікі не будзе, таму што будзе паступовая дэвальвацыя. Без абвалу. Лічу, што Ермакова сказала слушна. Попыт на валюту павялічыцца, таму што зарплата падымецца да пяцісотдоларавай адзнакі. Да канца года гэта будзе зроблена. Але не настолькі гэта будзе сур'ёзны рост, каб у дзяржавы не хапіла валюты. Да таго ж да канца года будзе валютны крэдыт Антыкрызіснага фонду. Таму я не чакаю ні панікі, ні абвалу курса.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# “ЗБІВАЦЬ ЖУРНАЛІСТАЎ НЕНАРМАЛЬНА!”

Я ўвогуле перажываю шок ад таго, што адбываецца ў краіне. Гэта расхіствае наша грамадства і распальвае атмасферу. Сённяшняя эканамічная сітуацыя вельмі складаная. У найбліжэйшы час неабходна будзе дэвальваваць беларускі рубель у адносінах да замежнай валюты. Даўгі крэдыторам мы не аддаём; спрабуем прадаць аб’екты дзяржуласнасці — не можам, скідваем цэны і ўтойваем гэта ад насельніцтва. Усё робіцца неяк нядбайна...

Я лічу правільным, што журналісты асвятляюць усе падзеі, якія адбываюцца ў нашай краіне. І, трэба адзначыць, яны робяць гэта вельмі далікатна. Карысці ад журналістаў больш, чым ад чыноўнікаў і ідэолагаў разам узятых. Яны кажуць праўду!»

## «ПРАБАЧЦЕ, АЛЕ Я НЕ Ў КУРСЕ»

Навіна пра збіццё журналістаў прайшла міма **галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская думка» гісторыка Вадзіма Гігіна.**

«Я не ў курсе, таму не магу гаварыць пра тое, чаго не ведаю, прабачце», — сказаў ён.

## УСЁ, ШТО МОГ...

**Прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі** рабіў усё магчымае для таго, каб журналістаў як мага хутчэй адпусцілі.

«Не ведаю, што гэта было, — кажа ён пра здарэнне. — Мая задача заключалася ў тым, каб журналісты як мага раней апынуліся на свабодзе. І я ўсяляк гэтаму садзейнічаў. А што там было і як, я не разбіраўся. І мяне ніхто не інфармаваў. Таму гатоў пракаментаваць тое, што было».

## КАГО ЗАТРЫМАЛІ?

Як паведаміла прэс-служба БАЖ, інцыдэнт адбыўся апоўдні 18 верасня непадалёк універсама «Фрунзенскі», дзе актывісты моладзевага крыла кампаніі «Гавары праўду!» зладзілі перадвыбарны пікет з сімвалічнай раздачай баршчу.

Журналістаў пратрымалі ў Фрунзенскім РУУС каля дзвюх гадзін. Сказалі, што затрымлівалі «для высвятлення асоб».

«Перад пачаткам акцыі ля месца яе правядзення былі заўважаны некалькі асоб у цывільным, якія назіралі за падзеямі, — распавёў прэсслужбе ГА «БАЖ» Алесь Барazенка. — Потым на вялікай хуткасці пад’ехаў мікрааўтобус, адусюль павыскоквалі людзі ў цывільным і пачалі хапаць без разбору і ўдзельнікаў, і журналістаў. Паводзілі сябе брутальна: Сяргею Грыцу разбілі акуляры, у яго рассечаны твар, ён і цяпер у крыві. Адразу забралі тэлефоны, апаратуру. Каля 20 хвілін нас трымалі ў актавай зале Фрунзенскага РУУС, потым развялі па кабінетах, дзе мы сядзелі ў чаканні рашэння. У выніку кіраўніцтва Фрунзенскага РУУС папрасіла прабачэння, сказаўшы, што нас затрымалі для «высвятлення асоб» на акцыі, якую супрацоўнікі міліцыі «палічылі несанкцыянаванай».

«На мяне накінуліся людзі ў цывільным. Адзін схапіў мяне за горла і стаў душыць, а другі ўдарыў кулаком у правае вока», — распавёў Сяргей Грыц калегам гісторыю сваёй траўмы. Да таго ж з фотаапарата Грыца выдалілі ўсе зробленыя ім на акцыі здымкі.

Увогуле невядомымі былі затрыманы: незалежны тэлеаператар Аляксандр Баразенка, фатографы Сяргей Грыц (Associated Press), Васіль Фядосенка (Reuters), Таццяна Зянькóвіч (EPA — Еўрапейскае прэс-фотаагенцтва), карэспандэнт БелаПАН Павел Падабед, а таксама здымачная група нямецкага тэлеканала ZDF — аператар Дзмітрый Рудакоў і прадзюсар Аляксей Акулаў.

**МАРЫНА МІТ**

# ГОРКІ ЯК ЭВАКУІРАВАНЫ ГОРАД

**У першы дзень датэрміновага галасавання незалежная назіральніца Галіна Будная ў вучэбным корпусе № 11 Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі за паўгадзіны налічыла больш за 250 студэнтаў, якія дружна бралі бюлетэні і кідалі іх у выбарчыя урны.**

## ІНТЭРНАТЫ — ГАСЦЯМ

Студэнцкая палітычная актыўнасць тлумачыцца проста: маладых людзей папярэдзілі, каб з чацвярга яны з’ехалі са сваіх шыкоўна адрамантаваных інтэрнатаў, бо ў іх будуць размяшчацца госці дажынак. Таму прагаласаваць трэба датэрмінова.

**Барыс М., трэцякурснік агранамічнага факультэта:**

— Паеду дадому, у сваю вёску. Не скажу, у якім рэгіёне яна знаходзіцца, — каб не вылічылі. Вось вам смешна, а я сапраўды гэтага баюся, бо бацькі мае столькі зрабілі, у столькім сабе адмаўлялі, каб я мог тут вучыцца. І цяпер быць вытураным адсюль — верх няўдзячнасці. Ды і дзяўчына мая будзе рада прыезду. Яна яшчэ нікуды не паступіла, рыхтуецца, працуе ў калгаснай канторы. Што тычыцца вучобы, то гэтыя некалькі дзён на ёй ніяк не паўплываюць. Тым больш што нас яшчэ чакае традыцыйная адсылка на дапамогу сельскім працаўнікам па зборы ўраджаю — буракоў і капусты.

**Мікалай Воранцаў, рабочы аднаго з горацкіх прадпрыемстваў:**

— На гэтыя “дажыначныя” дні ў мяне якраз выпаў вольны час. І я збіраюся паехаць за горад, каб тут нікому не замінаць і скончыць гаспадарчыя восеньскія клопаты на лецішчы. Ну вось скажыце: што тут рабіць, натыкаючыся ўсюды на перакрытыя вуліцы, міліцыянтаў, на зачыненыя сталоўкі і кафэ (не для ўсіх яны ў гэтыя дні)? Ужо сёння адчуваецца гэтае напружанне, а што будзе ў дзень “Дажынак”?.. Не, паеду з горада, па тэлевізары паглядджу нашы “Дажынкі”. Ну і тым, што застанецца, пачастуюся — не могуць жа ўсё раскупіць гараджане і госці. Вытрымаю пару дзён, затое потым у спакойных абставінах, без галгатні і тлуму, пагляджу, чым мы тут хвасталіся і чаго сюды навезлі. Жонка, канечне, хацела б пакрасавацца тут у самыя “Дажынкі”, але я яе пераканаў, што лепш з’ехаць. Дарэчы, ведаю некалькіх чалавек, якія зробяць гэтак жа, як і мы.




## НЕ ЗУСІМ РОДНАЕ СВЯТА

Першыя “Дажынкі” былі святам найперш таго паселішча, дзе праводзіліся. Цягам часу ўсё змянілася ў бок дэманстрацыі “поспехаў і здабыткаў” замежным (расійскім, найперш) і сваім гасцям. Пры тым, што рыхтуюцца “Дажынкі” (і Горкі выключэннем не сталі) па планах, якія менш за ўсё закранаюць мясцовых жыхароў (хто з імі раіўся, калі знасілі дом Гарэцкага альбо калі ставілі ў парку даволі спрэчную скульптурную студэнцкую (?) кампазіцыю).Вось так і атрымліваецца, што хоць свята праводзіцца і ў родным горадзе, яно не зусім роднае.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# 500 ДОЛАРАЎ

Ідэя фікс наконт сярэдняга заробку беларусаў у 500 долараў павінна рэалізавацца, па меншай меры фармальна, да канца гэтага года. Дарэчы, гэтыя хвалёныя 500 долараў ужо былі напрыканцы 2010 года.

**"Тут і цяпер"** параўноваўвае, што можна было набыць на тыя долары тады і сёння.

## УКЛЮЧАЕМСЯ

Найперш нагадаем, колькі ў недалёкім 2010 годзе каштаваў долар. Паводле Нацбанка, на канец снежня **за адзін долар давалі 3 000 беларускіх рублёў**. Сёння аднадоларавая купюра каштуе **8 410 рублёў**. Адпаведна, запаветны заробак у 500 долараў два гады назад складаў 1,500 мільёна беларускіх рублёў, сёння – 4,205 мільёна. У лічбавым вымярэнні мы, як абяцае кіраўніцтва краіны, станем значна больш багатымі людзьмі. Але кожны наступны дзень шараговага абывацеля ставіць гэтую тэзу пад сумненне.

## ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ

Пачнём з простых параўнанняў: на канец 2010 года адна паездка ў грамадскім транспарце ў Мінску каштавала 700 рублёў, сёння – 1 500 (з кастрычніка абяцаюць павысіць тарыф да 1 700 рублёў за талончык ці жэтончык). У пераліку на валюту гэта 0,23 і 0,18 (у кастрычніку будзе 0,20) долара адпаведна. Як бачым, **грамадскі транспарт патаннеў**, што не можа не радаваць душу і сэрца гараджаніна. Пакуль не можа не радаваць.

## КАМУНАЛКА

Да канца гэтага года тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў Беларусі плануецца павысіць яшчэ раз. Аб гэтым паведамляў намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Анатоль Шагун. Паводле яго слоў, урад вызначыў тарыфную палітыку на 2012 год у разліку павышэння коштаў на пяць долараў для стандартнай двухпакаёвай кватэры з трыма жыхарамі. Сёлета тарыфы на ЖКП павышаліся ў красавіку і чэрвені і выраслі на 2,5 долара.

Па дзеючых з 1 чэрвеня тарыфах насельніцтва пакрывае выдаткі па прадастаўленні ЖКП у сярэднім на 15%. Прыблізна кошт жыллёва-камунальных паслуг для сям'і з трох чалавек, якая пражывае ў тыпавой двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 кв.м, у ацяпляльны перыяд складзе 216,4 тысяч рублёў, у летні перыяд — 137,9 тысяч рублёў.



*Цяпер пакуль пэўна толькі гароднiна і не кусаецца*

Сярэдні кошт камунальных паслуг для сям'і з трох чалавек, якая жыве ў стандартнай двухпакаёвай кватэры, у ацяпляльны перыяд 2009-2010 года называўся ў памеры 163 тысяч рублёў; у летні перыяд — 106 тысяч.

Атрымліваецца, што ў 2010 годзе зімой за камуналку плацілі 54 долары, цяпер давядзецца аддаваць 27 долараў — зноў **выгада на баку грамадзяніна**, калі апераваць афіцыйнымі лічбамі.

## ПАЛІВА

Паколькі атрымліваецца, што сталі мы жыць лепш і больш весела, то, натуральна, у нас ёсць ва ўласнасці аўтамабіль, які трэба запраўляць.

Атрымліваем наступную карціну.

2012 год: бензін аўтамабільны АІ-95-Еўра каштуе 7 150 рублёў за літр, або 0,85 долара; бензін Нармаль-80 — 6 350 рублёў за літр, або 0,76.

2010 год: бензін аўтамабільны АІ-95-Еўра каштаваў 3 918 рублёў за літр (1,3 долара), бензін Нармаль-80 — 2 713 рублёў за літр (0,9 долара).

## ПРАДУКТЫ

Бадай што самыя частыя нараканні ў грамадзян выклікаюць цэны на харчовыя тавары. Натуральна, мы не бярэмся параўнаць увесь асартымент, але пералічыць на долары цэны з мінімальнага набору прадуктаў нескладана.

Для параўнання возьмем сярэднія кошты на асобныя віды харчовых тавараў у гандлёвых арганізацыях рознічнага гандлю на снежань 2010 года (рублёў за кілаграм; доларавы эквівалент), паводле Белстата:

— хлеб аржана-пшанічны 1 864 (0,62);
**— хлеб з мукі пшанічнай вышэйшага гатунку 2 999 (0,99);**
— макаронныя вырабы 3 157 (1,05);
**— ялавічына першай катэгорыі 13 628 (4,54);**
**— свініна (акрамя бескасцёвага мяса) 11 707(3,9);**
**— куры (кураняты) 8 867 (2,96);**
**— каўбаса вараная вышэйшага гатунку 14 145 (4,72);**
— каўбаса напаўвэнджаная вышэйшага гатунку 25 276 (8,4);
**— рыба марожаная (трасковая) 4 965 (1,66);**
— смятана 7 323 (2,4);
— тварог тлусты 9 069 (3,02);
— цукар 2 843 (0,95).

Цэны 2012 года таксама возьмем са справаздач Белстата за жнівень (рублёў за кілаграм; доларавы эквівалент):

— хлеб аржана-пшанічны 5 886 (0,70);
**— хлеб з мукі пшанічнай вышэйшага гатунку 9 860 (1,17);**
— макаронныя вырабы 7 840 (0,93);
**— ялавічына першай катэгорыі 82 146 (9,77);**
**— свініна (акрамя бескасцёвага мяса) 44 678 (5,19);**
**— куры (кураняты) 26 476 (3,15);**
**— каўбаса вараная вышэйшага гатунку 44 964 (5,3);**
— каўбаса напаўвэнджаная вышэйшага гатунку 70 521 (8,4);
**— рыба марожаная (трасковая) 30 782 (3,7);**
— смятана 21 705 (2,6);
— тварог тлусты 27 556 (3,28);
— цукар 7 926 (0,94).

# 500 ДОЛАРАМ РОЗНІЦА

Як бачым, **зло беларускага крызісу хаваецца ў прадуктах харчавання** *(тлустым шрыфтам вылучаны пазіцыі, па якіх адзначаецца найбольшае падаражанне ў доларавым эквіваленце)*. Найперш гэта тычыцца мяса, рыбы, мясных вырабаў, птушкі і нават хлеба з мукі вышэйшага гатунку. Відавочна, за часы “тлустых гадоў” нашы грамадзяне прызвычаіліся да пэўнага ўзроўню жыцця і па старынцы (а да добрага, як вядома, прызвычайваешся хутка) напаўняюць прадуктовыя кошыкі не бессартавой ці другасортнай каўбасой, а хаця б першасортнай, бяруць садавіну, нейкія прысмакі. На касе ж выбіваецца чэк, які здольны ўразіць нават стойкага беларуса-інтраверта. Так што застаецца параіць суайчыннікам або больш плённа працаваць ды зарабляць лепш, або перайсці ў вегетарыянцы.

Напрыканцы невялікага эксперымента з цэнамі мы апыталі некалькі грамадзян з розных сацыяльных слаёў на тэму запаветных 500 долараў: ці хапае ім на жыццё гэтай сумы, ці адчулі яны розніцу ў коштах, і, адпаведна, ці трэба кіраўніку дзяржавы сёння абяцаць іншы заробак дзеля ўсеагульнага дабрабыту.

**Аляксандр, Мінск, прадпрымальнік:**

— Тыя 500 долараў нязначна адрозніваюцца ад сённяшніх. Галоўная розніца ў тым, што сёння гэтых 500 долараў у многіх няма. Беларускія рэаліі ўскладнілі атрыманне гэтых грошай як у выглядзе заробку, так і ў выглядзе крэдыту. Таму сума ў такім эквіваленце, можа, і набыла вагу. Камунальныя паслугі ў доларавым эквіваленце патаннелі, паліва для аўтамабіляў як каштавала, так і каштуе, прадукты харчавання беларускай вытворчасці, мне падаецца, таксама каштуюць, як і каштавалі.

Мой заробак за гэты час паменшыўся з прычыны зніжэння пакупніцкай здольнасці людзей. У 2011 годзе мне давялося нават залезці ў “заначку”, прыхаваную на чорны дзень. А вось у 2012-м сітуацыя палепшылася, мае даходы і расходы фактычна зраўнаваліся. Праўда, адкласці грошы асабліва не атрымліваецца. Раней у нашай фірмы быў шырокі асартымент у цэнавым дыяпазоне, цяпер мы ссунулі таварны шэраг у бок бюджэтных коштаў, крыху змянілася база кліентаў. Увогуле, мяркую, 2012 год выглядае куды больш багатым за 2011: з аднаго боку, мы прызвычаіліся да хвалі крызісаў, у нечым падціснуліся, а з іншага, ёсць нейкая стабілізацыя сітуацыі, хай сабе і мізэрны, але рост дабрабыту.

**Вольга, Віцебск, маці малалетняга дзіцяці:**

— Муж працуе ў дзяржаўнай структуры, зараз зарабляе каля 4,5 мільёна. Я атрымліваю грошы на дзіця. Даходаў нам хапае толькі на бягучыя траты, а вось нейкія глабальныя пакупкі рабіць складна. Калі б я працавала і мой заробак у эквіваленце таксама быў роўны 500 доларам, то было б някепска — нам хапала б на большае. Напрыклад, было б куды прасцей адкласці на нейкую рэч для дома ці на рамонт тыя ж дзесяць мільёнаў рублёў. Хаця, канечне, дазволіць сабе траціць на забавы, падарожжы, адпачынак за мяжой мы ўсё адно не змаглі б. Мне падаецца, што сёння мы трацім на ежу больш са свайго заробку, чым у 2010 годзе. Увогуле, я думаю, што мужу пашанцавала: заробак яму паднялі сёлета някепска, мы разлічвалі на больш сціплую суму. А вось каб пачувацца вольна, мець магчымасць ездзіць адпачываць, сям’я з трох чалавек мусіць зарабляць хаця б 15-20 мільёнаў у месяц.

**Антон, Гомель, уласнік фірмы; па беларускіх мерках, мае высокі даход:**

— Для мяне 500 долараў сёння і два гады назад — прыблізна аднолькавая сума. Я не магу сказаць, што вельмі адчуў змены коштаў у беларускіх крамах. Калі нешта набываць за мяжой, то як яно каштавала два гады назад, так прыблізна і каштуе. Адзінае, што выклікала пэўныя турботы, гэта павышэнне мытных пошлін на аўтамабілі. Паколькі я з'яўляюся аматарам дарагой аўта- і мотатэхнікі, то на сённяшні дзень я стаў больш абмежаваны ў сваіх апетытах. У астатнім маё жыццё і настроі не змяніліся за апошнія два гады. Натуральна, я ведаю пра леташнія настроі ў грамадстве, пра праблемы з валютай, рост цэн. Але гэтыя праблемы найперш закранулі тых, хто атрымлівае заробак у беларускіх рублях. Калі ж даходы ў валюце, то ўсё выглядае параўнальна нядрэнна.

**Юрась, Гродна, кіраўнік прыватнай кампаніі, паспяховы бізнесмен:**

— Адрозненні адназначна ёсць. Спажывецкія тавары, паслугі, абсталяванне і г.д., якія прадстаўлены на ўнутраным рынку, у доларавым эквіваленце падаражэлі, і не заўважыць гэта проста немагчыма. Падаражэла практычна ўсё. Гэта калі мы гаворым пра цэны.

Розніца паміж 2010 годам і 2012-м адчувальная. Просты прыклад: арэнда двухпакаёвай кватэры з больш менш прымальным рамонтам два гады таму каштавала 300 у.е. Цяпер за такую ж просяць 400. Тлумачаць гэта тым, што ў насельніцтва выраслі прыбыткі, або тым, што ў гаспадароў няма іншага выйсця — “крэдыт плаціць трэба”. Хаця рэальна росту даходаў у валюце ў насельніцтва няма. Кошт тавараў і паслуг вырас не толькі ў беларускіх рублях, але і ў іх суадносінах з доларам.

А можна глядзець шырэй. Я не думаю, што тавары даражэюць толькі ў нас. Долар вагаецца і таннее па ўсім свеце — гэта адбіваецца і на нас. Тут дарэчы будзе прыклад з аўто: іх кошт з году ў год толькі расце, а якасць, на думку большасці спажыўцоў, пагаршаецца.

**ВОЛЬГА ХВОІН**



*500 долараў як міф*

# ЗА ШТО АБРАМАВА ЎДЗЯЧНАЯ ЛУКАШЭНКУ

## Былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў павесяліла

**Вольга Абрамава ў беларускай палітыцы ніколі не адыгрывала ролю першага і нават другога плана. Аднак яна знайшла для сябе зручную нішу. Рэпрэзентуючы сябе як дэмакратку, Абрамава значна часцей і мацней крытыкавала апанентаў Аляксандра Лукашэнкі, чым уладу.**




Такая пазіцыя не засталася па-за ўвагай кіраўніцтва краіны, і ў 2000 годзе Абрамава трапіла ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, дзе "адсядзела" два тэрміны. Гэткая нібыта канструктыўная нібыта апазіцыя.

Аднак не заўсёды кату масленіца. Калі ў 2008 годзе Абрамава трэці раз запар прэтэндавала на мандат, яе палічылі адпрацаваным матэрыялам. На той момант толькі зусім маладасведчаныя ў палітыцы людзі маглі паверыць у легенду пра "апазіцыянерку ў палаце". Таму Абрамавай сказалі: "Досыць". Яна паспрабавала трапіць у дэпутаты насуперак волі ўлад, але скончылася гэта прадказальна.

І вось у верасні 2012-га Абрамава ў размове з Радыё Свабода распавяла, як фальсіфікаваліся вынікі выбараў па яе акрузе. Па вялікім рахунку, нічога новага экс-дэпутатка не паведаміла: тыя ж самыя механізмы выкарыстоўваліся супраць дэмакратычных кандыдатаў ужо даўно.

> А вось пенсія, большая за сярэдні заробак па краіне, для некаторых, мусіць, вартая таго, каб патрымаць язык за зубамі пэўны час.

Паводле Абрамавай, пасля выбараў неназваны міжнародны назіральнік прынёс ёй копіі двух пратаколаў: той, які раздалі назіральнікам пасля заканчэння выбараў у асноўны дзень галасавання, і той, які ён змог "вырваць" у старшыні акруговай камісіі на наступны дзень, які пайшоў у ЦВК (з зусім рознымі лічбамі). І прапанаваў: "Давайце вырашаць, што будзем рабіць. У мяне прамыя доказы фальсіфікацый, мы можам узарваць усю сітуацыю".

Аднак тады Абрамава вырашыла лепш прамаўчаць і загаварыла толькі праз чатыры гады. Чаму?

Сама Абрамава тлумачыць гэта вельмі смешна: нібыта такі скандал мог мець негатыўныя наступствы для ўдзелу Беларусі ва "Усходнім партнёрстве". Цяпер жа адносіны паміж нашай краінай і Захадам такія, што губляць ужо няма чаго...

Значна больш праўдападобную версію агучыў "Белгазеце" кіраўнік партыі "Справядлівы свет" і кампаніі "За справядлівыя выбары" Сяргей Калякін: *"Человек ушел на пенсию, решил все свои проблемы, и теперь имеет возможность обо всем открыто говорить".*

Дарэчы, калі "Белгазета" пацікавілася ў Абрамавай памерам пенсіі ды іншымі льготамі для былых дэпутатаў, тая выбухнула вялізнай лекцыяй, але канкрэтна на пытанне так і не адказала. Вось найбольш паказальныя фрагменты са сказанага.

*"Я солидарна с бывшим министром обороны, членом ОГП Козловским, который говорил: зачем вы, журналисты, ведете эти разговоры, вы же разжигаете социальную зависть! Это делается вполне сознательно, чтобы натравить самую бедную, обездоленную часть населения на бывших депутатов.*

*Да, в принципе, я согласна с тем, что очень многие из тех, кто побывал в депутатах, не наработал эту пенсию. Но она вообще-то мизерная...*

*За то, что меня убрали из парламента, я должна выразить персональную благодарность Лукашенко: может быть, он даже спас мне жизнь. К этому моменту у меня произошло полное эмоциональное выгорание, я просто надорвалась на этой работе. А теперь подумайте сами, стоит ли это ПЕНСИИ С НЕБОЛЬШИМ ПРЕВЫШЕНИЕМ НАД СРЕДНИМ УРОВНЕМ ЗАРПЛАТЫ ПО СТРАНЕ?".*

Вось толькі складана ўявіць сабе, навошта "знясіленая ўшчэнт" парламенцкімі клопатамі Абрамава рвалася ў гэты "канцлагер" на трэці тэрмін. Ды і не нагадваюць нешта дэпутаты вязняў Асвенцыма... А вось пенсія, большая за сярэдні заробак па краіне, для некаторых, мусіць, вартая таго, каб патрымаць язык за зубамі пэўны час.

Напрыканцы, яшчэ адна цытата Абрамавай.

*— Я победила в честной борьбе (на выбарах у Палату прадстаўнікоў у 2004 годзе. — Заўв.аўтара.) — в тех условиях власть не старалась повлиять на исход выборов.*

Кароткая даведка: на выбарах 2004 года ўжо ў першым туры былі "абраны" 108 са 110 дэпутатаў. Сярод іх не было ніводнага прадстаўніка дэмакратычнай апазіцыі.

Вось такая "перамога ў сумленнай барацьбе". Заслона. Гамерычны рогат у зале.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

Алімпійскія гульні ў Лондане скончыліся пяць тыдняў назад, а ў Мінску ўсё ніяк не разбяруцца з іх вынікамі.

# АЛІМПІЙСКІЯ РАЗБОРКІ З ПРАЦЯГАМ



*Сапраўды час задумацца*

Як вядома, беларускія алімпійцы заваявалі 12 узнагарод: 2 "залатыя", 5 "сярэбраных" і 5 "бронзавых" і занялі 26 месца ў неафіцыйным камандным заліку. У цэлым нядрэнна, калі ўлічыць, што ў Гульнях удзельнічалі спартсмены з 205 краін. Беларусь, насельніцтва якой складае крыху больш за 9 мільёнаў, апярэдзіла ў табелі аб рангах значна буйнейшыя дзяржавы — Румынію (9 медалёў), Мексіку (7), Індыю (6), Турцыю (5), Канаду (18, але залаты медаль толькі адзін), Аргентыну (4).

Аднак усё спазнаецца ў параўнанні: за пяць суверэнных Алімпіяд цяперашні выступ — горшы. Лепшыя былі ў Пекіне ў 2008 годзе — 19 медалёў і Сіднэі ў 2000-м — 17.

Як бачна з табліцы, бывалі ў нас месцы і ніжэйшыя, але па колькасці медалёў — сур'ёзны недабор. Спачатку іх было 13, аднак ужо ў першы дзень пасля закрыцця Гульняў інтэрнэт разнёс па свеце непрыемную для нас навіну: алімпійская чэмпіёнка па штурханні ядра Надзея Астапчук дыскваліфікавана за выкарыстанне допінгу.

## ДОПІНГ — НАША ЎСЁ

Тым самым працягнута нядобрая традыцыя, паводле якой беларускія лёгкаатлеты становяцца ўдзельнікамі допінгавых скандалаў на галоўным спартыўным форуме. У 2000 годзе быў выдалены з Сіднэя кідальнік молата Вадзім Дзевятоўскі, у 2004-м — скакун у вышыню Аляксей Ляснічы, у 2008-м здарыўся гучны скандал з малатабойцамі Дзевятоўскім і Іванам Ціханам, сярэбраным і бронзавым прызёрамі. У выніку двухгадовай спрэчкі беларусы выйгралі суд і захавалі медалі.

Аднак ужо ў Лондане зноў грымнуў допінгавы гром: Сусветнае антыдопінгавае агенцтва (ВАДА) з дапамогай новай методыкі праверыла замарожаныя спробы ўдзельнікаў Гульняў 2004 і 2008 гадоў. Некаторыя з іх далі станоўчы вынік, у тым ліку і Ціхана. Іван быў праінфармаваны аб гэтым яшчэ да Алімпіяды ў Лондане, аднак спадзяваўся, што яму залічаць двухгадовую судовую спрэчку з МАК і дадуць магчымасць выступіць у сталіцы Брытаніі. Не, не дазволілі. У адносінах да беларуса пачата расследаванне, якое, верагодна, прывядзе да страты алімпійскага "серабра" васьмігадовай даўнасці, "залата" чэмпіянату свету-2005 і наступнай пажыццёвай дыскваліфікацыі з пазбаўленнем усіх узнагарод, здабытых пасля 2005 года. А гэта значыць, што наша алімпійская казна "ўсохне" на дзве-тры ўзнагароды. Вось такія бязрадасныя перспектывы.

**МЕДАЛЬНЫ РАСКЛАД**

| Год і месца, дзе праходзіла алімпіяда | З | С | Б | Усяго | месца |
|---|---|---|---|---|---|
| Атланта-96 | 1 | 6 | 8 | 15 | 37-е |
| Сіднэй-2000 | 3 | 3 | 11 | 17 | 23-е |
| Афіны-2004 | 2 | 6 | 7 | 15 | 26-е |
| Пекін-2008 | 4 | 6 | 9 | 19 | 16-е |
| Лондан-2012 | 2 | 5 | 5 | 12 | 26-е |

## САМ САБЕ ВОРАГ

У сітуацыі з Надзеяй Астапчук разбіраліся Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва і Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі. На днях дырэктар НАДА Аляксандр Ванхадла аб'явіў вердыкт чатырохтыднёвага следства: трэнер Астапчук Аляксандр Яфімаў прызнаўся, што падсыпаў сваёй вучаніцы допінг у шклянку з кавай. За гэта ён дыскваліфікаваны на 4 гады, а Надзея Астапчук — на 1 год. Гэтае рашэнне адпраўлена на зацвярджэнне ў Міжнародную федэрацыю лёгкай атлетыкі (ІААФ).

Паверыць у тое, што настаўнік зрабіў такі крок употай ад спартсменкі, якую трэніруе 16 гадоў, вельмі цяжка. З іншага боку, на карысць Надзеі сведчаць 15 адмоўных допінг-спроб, што былі ўзяты ў яе за тры перадалімпійскія месяцы. Калі ІААФ не паверыць у беларускую версію, то тэрмін дыскваліфікацыі Астапчук павялічыцца прынамсі ўдвая.

## ХТО ВІНАВАТЫ?

У недаборы медалёў вінаваты, вядома, не толькі Астапчук і Яфімаў. Першы раз за пяць Алімпіяд лёгкаатлеты не ўзялі ні адной узнагароды. З грукатам праваліліся барцы, якія засталіся без алімпійскіх прызоў упершыню з 1980 года. Зноў жа ніколі раней у суверэнны перыяд не заставаліся без медалёў весляры акадэмічнага стылю. Большага чакалі ад баксёраў, велагоншчыкаў, стралкоў, цяжкаатлетаў, фехтавальшчыкаў.

Міністр спорту Алег Качан і памочнік прэзідэнта па пытаннях фізкультуры, спорту і турызму Ігар Заічкоў на сумеснай калегіі Мінспорта і НАК выступілі з рэзкай крытыкай лонданскіх вынікаў і патрабавалі ад выступоўцаў тлумачэння таго, што здарылася ў Лондане. Нешта канструктыўнае вымавіў толькі выконваючы абавязкі галоўнага трэнера па лёгкай атлетыцы Аляксандр Трашчыла, які заявіў, што ў пытаннях методыкі падрыхтоўкі і фармакалагічнай падтрымкі мы знаходзімся на ўзроўні 70-х гадоў, усе ноў-хаў, што з'яўляюцца ў гэтай сферы, да нас не даходзяць. А міністр выказаў здагадку, што некаторыя атлеты на Алімпійскіх гульнях займаліся сабатажам.

У выніку калегія прыняла цвёрдую пастанову, у якой, у прыватнасці, прапануюваецца:

— разгледзець пытанне замены кіраўніцтва федэрацый лёгкай атлетыкі, акадэмічнага веславання, веласпорту, плавання, пяціборства, фехтавання, сінхроннага плавання і дзюдо,

— праверыць адпаведнасць занятым пасадам 44 галоўных і старшых трэнераў, 17 дзяржтрэнераў, 7 дырэктараў рэспубліканскіх цэнтраў алімпійскай падрыхтоўкі, спартыўнай медыцыны і НДІ фізкультуры і спорту. Рэкамендавана вызваліць ад пасад начальнікаў абласных упраўленняў спорту Хевука, Жаранкова, Юдко. Усяго "пад сякеру" пастаўлены 71 чалавек. Зараз усе чакаюць 27 верасня: у гэты дзень павінны адбыцца "алімпійскія разборкі" з удзелам прэзідэнта краіны і НАК Аляксандра Лукашэнкі. Чакаецца, у прыватнасці, што можа адбыцца змена кіраўніцтва спартыўнай галіны.

**МІХАСЬ МОШЫН**

# ХРОНІКА НЯРОЎНАГА ЗМАГАННЯ

**У Бялынічах кандыдату ў дэпутаты ледзь удалося прабіцца на сустрэчу з выбаршчыкамі, хоцімскага кандыдата суправадзілі ў пастарунак.**



**БЯЛЫНІЧЫ.**

На сустрэчу з выбаршчыкамі на прадпрыемстве-філіяле знакамітай «Бабушкиной крынки» з кандыдатам у дэпутаты Нацыянальнага Сходу намеснікам старшыні КДК краіны Аляксандрам Агеевым ледзь удалося прабіцца другому кандыдату па гэтай жа акрузе **Рыгору Кастусёву**.

Вось яго рэакцыя на гэта:

— Пра тое, што ў Аляксандра Агеева запланавана сустрэча з выбаршчыкамі бялыніцкага цэха па вытворчасці сыроў ААТ «Бабушкина крынка», я даведаўся ад сваёй даверанай асобы, бялыніцкага актывіста партыі БНФ Мікалая Мяцеліцы. А яму паведамілі пра гэта знаёмыя работнікі прадпрыемства, сказаўшы, што ім загадалі быць на сустрэчы з кандыдатам раніцай, яшчэ да пачатку рабочай змены. Я таксама вырашыў наведаць гэтую сустрэчу, каб давесці работнікам прадпрыемства свой пункт гледжання на іх праблемы. Але, калі мы раніцай разам з Мікалаем Мяцеліцам прыйшлі да варот прадпрыемства, то ахова не прапусціла нас на тэрыторыю. Нам пашанцавала, бо мы прыйшлі раней за сп. Агеева і яго прадстаўніцу акруговай камісіі Шклоўскай выбарчай акругі № 90 (яна ж і дырэктар цэха на прадпрыемстве) Тамару Галёта, якая яго суправаджала. Яны доўга раіліся паміж сабой, што з намі рабіць. Паколькі і мы не адступалі, нам урэшце дазволілі прысутнічаць. Сп. Агееў выступаў доўга, пакінуўшы мне літаральна некалькі хвілін. Аднак я паспеў сказаць галоўнае – звярнуць увагу рабочых на адносіны камісіі і праўладнага кандыдата да кандыдата ад дэмакратычных нацыянальных сіл. Ну і, зразумела, выказаўся наконт нашых, беларускіх выбараў, над якімі смяецца ўвесь цывілізаваны свет і якія падабаюцца толькі што самой спн. Ярмошынай. Дарэчы, людзі станоўча ўспрынялі маю прамову, бо пасля заканчэння сустрэчы за межамі прадпрыемства да нас падыходзілі вольныя ад працы работнікі, каб выказаць сваю падтрымку.

> Але, калі мы раніцай разам з Мікалаем Мяцеліцам прыйшлі да варот прадпрыемства, то ахова не прапусціла нас на тэрыторыю.

**ХОЦІМСК.**

Супрацоўнікі міліцыі прымусілі кандыдата ў дэпутаты ад кампаніі «Гавары праўду» Валерыя Каранкевіча згарнуць пікет, які ён і разгарнуць як след не паспеў. Больш за тое, яго суправадзілі ў пастарунак.

**Распавядае Валеры Каранкевіч:**

— Як кандыдат па выбарчай акрузе № 83 я ладзіў свой першы ў Хоцімску пікет з мэтай правядзення інфармацыйна-агітацыйнай работы з землякамі. Толькі пачалі падыходзіць да нас людзі, як з'явіліся міліцыянты. Пры тым, што пікет мы ладзілі якраз там, дзе было дазволена райвыканкамам – на мясцовым стадыёне. У пастарунку міліцыянты ўзялі з мяне пісьмовае тлумачэнне і адпусцілі, хаваючы свае вочы. А ў прыватнай гутарцы па-за межамі кабінета паведамілі, што кіруючы справамі райвыканкама сп. Васіль Мітранкоў праінфармаваў (данёс на больш дакладнай мове) пра пікет выконваючую абавязкі раённага пракурора спн. Ірыну Хучаву, а тая, хутчэй за ўсё, і распарадзілася далучыць да аперацыі міліцыянтаў. Пры гэтым відавочна, што ні гэтыя службовыя асобы, ні міліцыянты не баяцца адказнасці за іх. Вось гэта і стане тэмай маіх наступных сустрэч з выбаршчыкамі. У краіне мае месца адкрытая кругавая парука прыхільнікаў улады і яе службоўцаў, нягледзячы на законы, імі ж прынятыя. Ім загадзя ўсё даравана, абы яны не прапусцілі нежаданага кандыдата. Хачу нагадаць, аднак, што такія парушэнні не маюць тэрміну даўніны... Тым часам мой апанент на выбарах намеснік старшыні аблвыканкама сп. Уладзімір Краўцоў спакойна праводзіць сустрэчы на прадпрыемствах і ва ўстановах, а нам ніяк не ўдаецца ўзгадніць іх з адміністрацыямі. Ды і робіцца гэта ў рабочы час, што заканадаўствам не дапускаецца. Я ўжо не кажу пра такія дробязі, як суправаджэнне па тэрыторыі раёна гэтага высокага чыноўніка работнікамі рознага рангу нашага райвыканкама на службовых машынах. Ясна, што такое па заканадаўстве, ды і па маралі, недапушчальнае...

**СЯМЁН БАРЫСАЎ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 20.09.12
Тыраж 299 экзэмпляраў